Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 6—(46). Вільня, 10 лютага 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за ½ — 65, за ¼ — 35, за ⅛ — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Перад выбарамі.

Толькі цяпер, калі 4 лютага мінуў апошні срок падачы сьпіску кандыдатаў у Сойм, вобраз выбарчай кампаніі ў нашым краі зарысаваўся зусім ясна. Мусім сказаць, што вобраз гэны вельмі сумны.

Якія толькі гурткі, гурточкі, партыі і партыйкі не прэтэндуюць на прадстаўніцтва нашага краю. Ня кажучы ўжо аб сьпісках былых паслоў, адны з каторых ачышчаюць цяпер свае партыйныя сьцягі з бруду і пылу, асеўшага на іх за пяць год існаваньня, ўмёршага бясслаўнай сьмерцяй, мінулага Сойму, а іншыя—ўтраціўшы свой сьцяг зусім, надаюць сваім сьпіскам розныя крыклівыя назовы, каб хаця за імі пралезьці ў Сойм; ня кажучы таксама аб польскай чорнай сотні, згуртованай каля сьпіскаў „Katolicko-Narodowych“, якая таксама сьніць залатыя сны аб захапленьні жыцьця і працы новага Сойму ў свае рукі і спадзяецца яшчэ на галасы беларускіх сялян, ігноруючы самае істнаваньне беларусаў; ня кажучы аб сьпісках камуністых, якія пад стогн многамільённага сялянства, засяляючага абшары савецкіх рэспублік, выбіваючагася з апошніх сіл пад пятою чырвонага тэрору — маюць адвагу думаць, што нашае сялянства ім, найзаўзятшым ворагам сваім, аддасьць свае галасы, ня кажучы таксама аб сьпісках розных іншых дробных груп і групак, выстаўленьне каторых можна толькі тлумачыць альбо наіўнасьцяй тых людзей, якія іх выстаўлялі, альбо глыбокай іх верай у наіўнасьць нашага сялянства,—адных беларускіх сьпіскаў на абшарах Віленскага і Навагрудзкага ваяводзтва выстаўлена аж цэлых 8 і адзін беларуска-жыдоўскі — блёку нацыянальных меншасьцяў.

Большасьць гэтых сьпіскаў носіць крыклівыя назовы „сялянска-работніцкіх“, кожны з іх ужо самым назовам сваім хоча заманіць выбаршчыка, агітатары іх будуць сыпаць на мітынгах і сходах абяцанкамі направа і налева, будуць суліць багацьце, зямлю, адным словам, рай на тым і гэтым сьвеце, ўсім тым хто аддасьць за іх сьпісак свой голас. Скрозь гэныя шумлівыя назовы, скрозь гэныя громкія дэмагогічныя лёзунгі розных „абаронцаў“, сялян і работнікаў, выглядае толькі адно: вялікая пагарда для селяніна і работніка і вялікая глыбокая вера ў беспраглядную цемнату і наіўнасьць нашага сялянства, каторае, паводлуг думкі паноў „абаронцаў“ павінна паверыць кожнай іх брахні, павінна, як муха на мёд, пайсьці за кожнай іх ілжывай абяцанкай, ў зьдзейсьненьне каторай найменш вераць яны самі.

Гэным паном здаецца, што і цяпер, як пяць год таму назад, даволі кінуць моцнае слова, даволі паказаць зорку з неба — каб народ паверыў і аддаў свае галасы.

Гэтыя паны забываюць, што народ у працягу пяцёх год перастаў быць тым малым у палітычным жыцьці дзіцянём, якім быў падчас выбараў у першы Сойм, шырокія гушчы народу цяпер разумеюць, што

абяцаць, а выпаўніць абяцанку — гэта дзьве рэчы розныя. Народ разумее, што ніякія абяцанкі раю на зямлі—абяцанкі крыкуноў гарлапанаў не палепшаць яго жыцьця, народ разумее цяпер, што палепшаньне яго зьяўляецца працэсам творчай мазольнай працы цэлых пакаленьняў. Яшчэ няма, яшчэ і ня было на сьвеце таго чараўніка, які адзіным махам, адзіным дакнуцьцем чарадзейнай палачкі мог перамяніць усё на сьвеце, мог даць тое, што чалавецтва можа здабыць толькі потам і працай сваею. Народ цяпер разумее, што чараў ад Сойму няма чаго чакаць, і не чараўнікоў—шаптуноў, каторыя абяцаюць розныя пекныя рэчы за пасольскі мандат, а людзей, якія-б у Сойме упорнай працай і ведай сваёю патрапілі нарыхтаваць гаспадарчае жыцьцё, патрапілі стварыць варункі, для выяўленьня творчых сілаў усяго грамадзянства дзяржавы, і залажылі такім чынам моцны фундамэнт для далейшага гаспадарчага разьвіцьця дзяржавы, а разам з тым і палепшаньня быту народных гушчаў. Вось якая задача ляжыць прад Соймам, і аб гэтым ведаюць народныя масы. І цяпер, калі паставіць пытаньне, за каго-ж павінна падаць свой голас сялянства, каму яно павінна даверыць у Сойме будаўніцтва гаспадарчага жыцьця, то тут адказ можа быць адзін.

Сялянства павінна аддаць свае галасы, за тых людзей, якія згуртаваліся каля думкі аб супрацоўніцтве з урадам Маршалка Пілсудскага. Гэты ўрад, вядучы ўпорную барацьбу з усімі цёмнымі сіламі, як у Сойме так і па-за ім, патрапіў такі наладзіць жыцьцё дзяржавы. Ен патрапіў ня толькі паўстрымаць упадак польскай валюты, ад чаго гэтак шмат цярпела бяднейшая частка насельніцтва, а асабліва сялянства, але і стварыць цьвёрды фундамэнт для забясьпечаньня яе ад хістаньня ў будучыне. Урад Маршалка Пілсудскага патрапіў пхнуць з мёртвага пункту ўсе галіны гаспадарчага жыцьця. Ен вырваў дзяржаўныя установы Польшчы з чэпкіх рук палітычных спэкулянтаў, каторыя не паўстрымоўваліся перад тым, каб карыстацца з дзяржаўнай казны для сваіх брудных мэтаў, набіваючы сабе кішані дабром, сабраным з гаротнага народу. Гэты ўрад патрапіў раздабыць крэдыты для сельскай дробнай гаспадаркі, для куплі зямлі дробным гаспадаром, зрухнуў з месца і праводзіць, паводлуг магчымасьці, зямельную рэформу, так што з кожным годам усё больш і больш зямлі пераходзіць у рукі малазямельнага сялянства; побач з тым урад гэты вядзе інтэнсыўна гэтак патрэбную для нашага сялянства комасацыю вёсак, зрухнуў з месца справу беларускай школы. Адным словам, няма тэй галіны гаспадарчага і палітычнага жыцьця, ў якой-бы мы за працяг 20 месяцаў працы гэтага ўраду ня бачылі палепшаньня. Праўда, палепшаньне гэтае іншы раз не здаваляе нас у поўнай меры, іншы раз звычайны сьмяротны чалавек можа і не заўважыць яго ў тэй ці іншай галіне. Але яно ёсьць, аб гэтым красамоўна сьведчаць цыфры.

І калі за працяг 20 месяцаў Урад Маршалка Пілсудскага мог да гэткага стану давясьці дзяржаву, стаяўшую перад маёвым пераваротам амаль на краю эканамічнага і палітычнага банкруцтва, куды завяла яе чорная рэакцыя і ворагі дзяржаўнага істнаваньня Польшчы,—то пры згодным супрацоўніцтве Сойму з Урадам Маршалка Пілсудскага — адчыняюцца шырокія магчымасьці далейшага разьвіцьця ўсіх галін гаспадарчага жыцьця і спыненьня ўсіх тых перашкод, якія цяпер яшчэ істнуюць на шляху гаспадарчага і культурнага разьвіцьця народаў, засяляючых Польскую Дзяржаву. Тады адчыняецца шырокія магчымасьці і для рацыянальнага вырашэньня нацыянальнай беларускай справы. Так—беларускае сялянства не пагоніцца за шумлівымі абяцанкамі, крыкуноў-гарлапанаў і ў гістарычны дзень 4 сакавіка дакажа сваю грамадзкую дасьпеласьць, аддаючы свае галасы за сьпісак № 1.

---

## Новая песьня на стары лад.

Беларускае адраджэньне, якое вызвала да жыцьця мільённыя беларускія масы і „павярнула" да тых масаў інтэлігэнцыю, што ўзбагачвала чужыя культурныя сілы і пакідала праз доўгі час свой народ, гэтая адраджэнская праца спаткалася з закідам з боку моцна акапаўшайся ў Беларусі расейшчыны, быццам адраджэнскі рух ня больш як „польская інтрыга".

Валадары тагочаснага „Сѣверо-Западнаго края" розныя Саланевічы, якія гуртаваліся у „Союзе русскаго народа", адразу пачулі небясьпеку для свае русыфікацыйнае і „культурнае" місіі, якую праводзілі яны ў Беларусі.

І каб забіць з самага пачатку адраджэнскую беларускую працу, гэтая „культуртрэгэры" беларускіх земляў, дзе яны мелі высокія пасады і высокія пэнсіі за сваю работу, зрабілі „перед начальством" данос, ахрысьціўшы вызвольны нацыянальны беларускі рух імем процідзяржаўнае „польскае інтрыгі". — Да самае вайны 1914 г. і да адходу з Беларусі расейскае ўлады праз увесь час паўтараўся гэты спосаб барацьбы абрусіцеляў Беларусі з беларускім рухам. Вялікая расейская культура, прадстаўнікамі якой лічыліся ўсе гэтыя Кавалюкі ды Саланевічы, быццам не магла сьцярпець беларускае адраджэнскае працы. І ў імя гэтае „культуры" змагаліся абрусіцелі нашага краю

з праявамі нацыянальнага беларускага руху. А ў той самы час расейскія акадэмікі — Карскі, Шахматаў і інш. сапраўдныя расейскія культурнікі адчынялі вочы інтэлігэнтнаму расейскаму грамадзянству на факт істнаваньня асобнага беларускага народу, які захаваў усе элемэнты, патрэбныя для вытварэньня асобнага народу. Аднак, абрусіцелям Беларусі і расейскаму мяшчанству не трапілялі да перакананьня гэтыя довады расейскіх вучоных — яны і іх гатовы былі западозрыць у „польскай інтрызе“.

Яшчэ ў 1918 годзе, калі разваліўся „склад крадзеных рэчаў“— Вялікая Расея, калі ўсе паднявольныя і нявольныя народы пачалі арганізаваць сваё нацыянальнае жыцьцё, яшчэ тады, падчас Усебеларускага Зьезду г. зв. „тоже бѣлоруссы“, староньнікі далейшага папаўненьня „складу крадзенага“ новымі „культурнымі“ здабычамі, відзелі ў факце Усебеларускага Зьезду тую-ж „польскую інтрыгу“ і дэклямавалі аб вялікай культуры Пушкіна і Некрасова, якую нібы крыўдзілі беларусы, жадаючы будаваць сваё культурнае і грамадзкае жыцьцё. Яшчэ тады розныя Рагулі зьдзекаваліся над беларускай мовай у імя „общепонятнаго языка“ Пушкіна.

Ім на падмогу прышлі іншыя расейскія цэнтралістыя, у асобах бальшавіцкіх камісараў Рэзаускіх і Ляндэраў, якія аружнай сілай разагналі беларускае „Веча“ ў Менску.

Але голас першага Усебеларускага Зьезду паказаў вялікую жыцьцёвую сілу беларускага народу, які, шануючы чужую культуру, хоча будаваць і тварыць сваё культурнае багацьце.

Мы затрымаліся крыху на адносінах расейцаў да нас у нашым краі перад вайною дзеля таго, што як раз цяпер бачым тое самае. Яшчэ, пакуль што, гэтыя „абаронцы“ расейскае культуры ня крычаць, што беларускае адраджэньне — гэта толькі польская інтрыга, бо няма таго жандарскага апарату, які выкарыстоўваў гэтыя нападкі на беларусаў ды само жыцьцё паказвае што іншае. Але „нічога новага пад сонцам“ і мо' хутка мы, беларусы, ізноў станем у іх вачох „польскімі інтрыгантамі“. Пакуль што, вярнуўшыяся да сваіх дамкоў у нашых гарадох былыя царскія вураднікі і іх сынкі, невялікая група абшарнікаў і духавенства зрабілі новае адкрыцьце, што ўсё-ж праўдай было тое, што беларускі рух толькі польская інтрыга, бо-ж ніякіх беларусаў няма, а ёсьць толькі адзін расейскі народ. Самыя дамкі і маёнткі—вельмі няпэўная рэч. Здабылі іх гэтыя імпортованыя яшчэ за Кац рыны ці Мураўёва да нас людзі, калі мелі тут вялікія ходы і ўсе прывілеі, але вось цяпер, пры істнаваньні беларускага нацыянальнага руху, асталіся ў палажэньні генералаў бяз арміі. Бо нават і ў гарадох, дзе былі староньнікі расейскае культуры, — абруселае жыдоўскае мяшчанства, — зьмяншаецца яго лік, жыды пераходзяць на сваю ўласную культуру — і усім б. царскім людзям пагражае павольнае выміраньне.

І вось яны кінуліся на новую штуку. Пачалі паход проці беларускага адраджэньня ў імя „вышэйшае“ расейскае культуры, маючы на мэце ізноў вясьці русыфікацыю беларускіх масаў. І трэба прызнацца, што дзякуючы ненармальнаму палажэньню беларускае справы ў Польшчы, гэтыя новыя Салавейчы маюць многа спрыяючых іхняй рабоце варункаў. З аднаго боку маскоўскі камуністычны імпэрыялізм разьядае нашае беларускае жыцьцё ў Заходняй Беларусі, атручваючы чыстату беларускааг адраджэньня камуністычнымі ўплывамі ў імя сусьветнай рэвалюцыі, падбураючы агалелае беларускае насельніцтва да процідзяржаўнае работы, з другога такія-ж самыя староньнікі „вялікае і недзялімае“ Расеі, апранутыя ў проці-бальшавіцкую вопратку, туманяць галовы нашага сялянства, быццам прычынаю іх злыбедаў і благога палажэньня зьяўляецца тое, што гэтае сялянства

## Яшчэ аб „Нашай Долі“.

*Адказ С. Барывою (?)*

На артыкул „Праўда аб рэдагаваньні „Нашай Долі“, зьмешчаны ў № 40 „Бел. Дня“, у якім я пазволіў сабе ў належным асьвятленьні нарысаваць ігру „знамянітага“ беларускага гісторыяграфа і бібліофіля інжынера Р. Земкевіча, гэнага сучаснага Брянцева гісторыі беларускага адраджэнскага руху.

Здаецца нам, што кожнаму, хто меў цярплівасьць прачытаць уважліва гэны адказ пана Саўкі Барывоя, носячы крыклівы, з хуліганскім пахам, загаловак „Воўчы білет самазванаму рэдактару-выдаўцу „Нашае Долі“ ясна-вяльможнаму „пану графу“ Францішку Умястоўскаму“ ня трэба шмат тлумачыць, чаму за гонар „знамянітага“ беларускага гісторыяграфа і бібліофіля інжынера Р. Земкевіча заступаецца Саўка Барывой.

Заступаецца з пенай на вуснах, дрэнна ўкрываючы ўсю сваю злосьць і гнеў пад вопраткай бесстаронных досьледаў гісторыка.

Форма, у якой вылілася гэта заступніцтва Саўкі Барывоя, стыль артыкулу, поўная адсутнасьць элемэнтарнай лёгікі ў вывадах, урэшце грубая мана і ілжа, ілжа на якой можа зглавіць кожны граматны чалавек, — усё гэта разам узятае — выдае аўтора артыкулу з галавою так, што прачытаўшы пад ім подпіс Саўкі Барывоя, кожнаму робіцца зразумелым, што Саўка Барывой і інжынер Земкевіч—гэта адна і тая самая асоба.

Я разумею добра, чаму пан інжынер Земкевіч хаваецца ад часу да часу за сьпіну Саўкі Барывоя. Як-ніяк ён вураднік, праўда невялічкі (відаць і на службе сваёй — у дзяржаўным кантролі — ён таксама зьяўляецца няпрызнаным гэніем, як і ў сям'і беларускіх гісторыкаў), але элемэнтарныя формы прызваітасьці, асабліва ў друку абавязваюць і яго.

Калі брэша і кідае інсынуацыі Саўка Барывой — пан інжынер Земкевіч сьпіць спакойна.

А калі-б зрабіў гэта самае польскі вураднік — яго можна пацягнуць да судовай адказнасьці. Мала таго, калі суд прызнае вінаватым — яго могуць выкінуць са службы. Што тады будзеш рабіць? Ня гледзячы на ўсю паказную прыхільнасьць пана Земкевіча да „Думкі Працы“, у Саветы ён не паедзе, бо там добра ведаюць, чым пахне Саўка Барывой.

Вось у такіх варунках, калі трэба пану інжынеру Земкевічу адвясьці сэрца, выліць сваю жоўць і злосьць і выпляваць увесь бруд, які цэлымі гадамі зьбіраўся ў хворай яго душы — тады ён хаваецца пад псэўдонімам Саўкі Барывоя і „качае ва ўсю“.

Разумеючы добра, што ўсе яго „доказы“ па-

хоча быць беларускім і адракаецца ад расейшчыны. Пад сьцягам процікамуністычнае работы расейскае б. чыноўніцтва, чорнасоценнае па духу, апранулася ў лёяльнасьць да польскае дзяржавы — і змагаецца з усякімі праявамі беларускага руху ў імя тае трэцяе Расеі, што мае замяніць бальшавіцкую дыктатуру.

Мы ня верым у пасьпех гэтага наступу новых „Саланевічаў“ на беларускае адраджэньне. Народ пазнае гэтых новых апякуноў, якія яшчэ нядаўна хацелі накінуць сваё панаваньне расейскаму сялянству, калі з Дэнікінымі ды Юдэнічамі адбудоўвалі губэрнатарства і вярталі ад сялянства свае абшарніцкія землі. А ўсё ў імя „адзінае і недзялімае Расеі“ з „Сѣверо-Западнымъ краемъ“ уключна і ў імя тае-ж вялікае культуры Пушкіных. Расейскае сялянства пазналася на іх рабоце — прагнала проч. Тут у нас на чужым нацыянальна грунце іх чакае тое самае. Яны вернуцца да сваіх дамкоў і маёнткаў дажываць свае дні, успамінаючы былое, бо гэта ўсё адно „былыя“ людзі, якія нічога не забыліся і нічога не навучыліся.

С.

## Развал „штабу“ Грамады.

Як мы ўжо пісалі, Грамада развалілася. Арыштованыя паслы і дзеячы гэтае арганізацыі, як аказалася, не прадстаўлялі аднаго прадуманага палітычнага напрамку. Побач з тымі, для якіх найвышэйшым аўторытэтам былі нейкія цёмныя падпольныя сілы, што кіравалі работаю Грамады, там аказаліся людзі, ў якіх сацыяльныя проблемы не зацёрлі зусім нацыянальнай беларускай думкі, для якіх справа культурнага і палітычнага будаўніцтва беларускага жыцьця асталася дарагім заданьнем. Бачым гэта з таго факту, што па сьпіску ў Сойм Беларускага Сялянска-Работніцкага Аб'яднаньня,—а гэта тая-ж самая Грамада—не памешчаны вядомыя грамадзкія дзеячы, як Астроўскі і Шнаркевіч. Праўда, гэтыя людзі былі пераважна культурнымі работнікамі і малы мелі ўплыў на палітыку Грамады.

Ня ўсе паслы б. Грамады. відаць, аказаліся годнымі кандыдаваць у Сойм, бо ня бачым, напрыклад, там Рака-Міхалоўскага, таксама вядомага культурнага работніка.

Відаць, тая высокая рука, якой вытварам была авантура Грамады, прасеяла цераз сіта сваіх вымаганьняў арыштованых і толькі некаторыя затрымаліся ў гэтым сіце.

Затое б. пасол С. Ваявудзкі якраз знайшоў сабе месца на сьпіску Б. С.-Р. Аб'яднаньня. Цікава, ці ён раптам стаўся беларусам? Ці гэта, так сказаць толькі „вока“ тае высокае інстанцыі, якая парадзіла гэты жупэл беларускага жыцьця—Грамаду.

Але астаецца фактам тое, што ад Грамады адышлі ўжо многія з тых, якіх яшчэ будзе судзіць суд.—Астроўскі, Шнаркевіч, Чатырка і Янка Станкевіч выступаюць разам і гэта паказвае, што цяпер нельга гаварыць аб грамадаўскім напрамку ў тым значэньні, які яму дагэтуль прыдавалі. Выступленьне Р. Астроўскага разам з Янкай Станкевічам, які заўсёды быў анты-бальшавіком і адным з найбольшых беларускіх нацыяналістых, асуджвае тым самым усю работу Грамады, пазбаўленую іменна нацыянальнага беларускага характару, а растопленую ў сацыяльным бурэньні масаў. Гэты факт, падчас поўнае дэмаралізацыі ўсіх беларускіх „дзеячоў“, якія выставілі каля дзесятка сьпіскаў у Сойм і распачалі дзікую пагоню за мандатамі, зьяўляецца адным сьветлым выдарэньнем. Ня вытрымалі, ўрэшце, грамадзяне Астроўскі і Шнаркевіч, разарвалі з

---

шыты белымі ніткамі, так што нават мала крытычнаму чытачу фальш і мана іх адразу кідаецца ў вочы, пан інжынер, каб узмацаваць іх значэньне кажа: „Мэтай нашай (г. знача Р. Земкевіча і Саўкі Барывоя. *Прып. аўтора*), была об'ектыўная гістарычная праўда, а не грашавыя інтарэсы“.

Колькі дзіцячай наіўнасьці ў гэтага чалавека, і колькі глыбокай веры ў наіўнасьць чытачоў „Думкі Працы“.

Чытаючы гэтыя словы пана Р. Земкевіча прыпамінаюцца мне словы малога дзіцяці, якое, прыбегшы да бацькі, ні з таго ні з сяго кажа яму: „Тата, гэта не я разьбіў міску“.

Неразумнае дзіцянё ня ведае, што гэткай заявай выдае сябе з галавою, але тата не маркоціцца дзіцячай наіўнасьцю: „вырасьце — паразумнее“. Калі-ж гэтага ня ведае сталы чалавек, то тут ужо надзеі на тое, каб ён калі-небудзь пазбыўся свае наіўнасьці — ня можа быць.

Што датычыць сутнасьці справы закранутай інж. Земкевічам, то не затрымліваючыся на ўсёй яго брахні, пачынаючы ад прызнаньня мяне за „пана графа*)“ і канчаючы на тым, што я быў скарбнікам „Нашае Долі“, хачу адказаць толькі на тыя з іх, якія не магу тлумачыць малой ведай альбо характарнай для гэтага „знамянітага“ гісторыяграфа наіўнасьцю, а толькі злой воляй яго і жаданьнем „сочинять факты“.

Насам перш, што датычыць *Ефстафія* Сымановіча. Так, праўда, Сымановіч, які працаваў у „Нашай Долі“ меў імя не Станіслаў, а Евстафій. Называючы яго Станіславам, я абмыліўся дзеля таго, што і цяпер яго называюць Стасюком. Але магу ўпэўніць беларускае грамадзянства, што гэты Стасюк Сымановіч, які працуе ў саюзе кооператываў у Вільні (Малая-Пагулянка 12) і жыве ў Вільні, Полацкая вуліца 7 кв. 2, і ёсьць тым самым Евстафіем Сымановічам, які быў экспэдытарам „Нашае Долі“. А ні яго, а ні якога іншага сьведкі я ня купляў і ня буду купляць, бо купляй сумленьня людзей не займаюся. Аб гэтым добра ведае пан Р. Земкевіч. Урэшце, мушу сказаць пану Р. Земкевічу, каторы з гэткім пераканаьнем гавора аб магчымасьці куплі сумленьня людзей. — што ня можна ўсіх людзей мерыць паводлуг свайго аршына.

Цяпер, што датычыць запярэчаньня таму, што я быў фактычным рэдактарам „Нашае Долі“, то пан Р. Земкевіч знаходзіць гэта запярэчаньне ў двох кніжках, выданых у межах Польшчы: адна з іх гэта: „Памяці Івана Луцкевіча ў першыя

*) У ваколіцах маёнтку Укропішкі, Ашмянскага пав. жыве мой дзядзька Уладыслаў Умястоўскі — бўшы ляснік абшарніка Вожынскага, родны брат майго бацькі. Хто цікавы, няхай паглядзіць, як жыве родны дзядзька „пана графа“ Францішка Умястоўскага.

прававерным і паслушнымі прыказам з Усходу грамадзістымі. Гэта зьяўляецца прасьвятленьнем цёмнага і сумнага палітычнага і грамадзкага беларускага гарызонту. С.

## У пагоні за мандатамі.

На беларускіх землях аж кішыць ад беларускіх і небеларускіх аматараў атрымаць мандаты і пралезьці ў Сойм ды Сэнат.

Беларусы разьбіліся дашчэнту, бо кожны „дзеяч“ і недзеяч хоча быць паслом. Тое самае бачым у палякоў.

Такім чынам, маем.

1. У Віленскім выбарным вокругу № 63 прадстаўлены такія сьпіскі:

1) Сьпісак № 18 блёку меншасьцяў. Па гэтаму сьпіску кандыдуюць жыд Выгодзкі Якуб і беларус Грабінскі Балеслаў,

2) Беларускае Сялянска-Работніцкае Аб'яднаньне — кандыдуюць: Назарук, Пекач, Крук у Сойм і М. Кепель у Сэнат,

3) Беларускія Сяляне і Работнікі—Янка Станкевіч, Пятроўскі ў Сойм. У Сэнат: А. Астроўская (жонка б. дырэктара Р. Астроўскага),

4) Беларускі працоўны народ, толькі ў Сэнат— б. сэн. Уласаў.

Сьпіскі небеларускія.

5) Эндэцкі сьпісак № 24.

6) Агульна-жыдоўскі сьпісак Бунду № 4.

7) Польская Соцыялістычная партыя № 2.

8) Вызваленьне № 3.

9) Сьпісак б. вызваленца Гэльмана.

10) „Одродзэне“.

11) Камуністыя № 13.

12) Сьпісак еднасьці работнікаў і сялян.

13) Расейцы № 20.

14) Агульна-жыдоўскі сьпісак буржуазіі жыдоўскай.

15) Сьпісак № 1 Беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з Урадам.

У Наваградзкім выбарным вокругу падазены такія сьпіскі:

1) № 1. Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам.

2) № 2. П. П. С.

3) Партыя хлопская (быўшыя вызваленцы).

4) Камуністыя.

5) Сьпісак № 18 блёку меншасьцяў на чале з б. паслом Рагуляй і Куніцкім.

6) Расейцы № 20.

7) Камуністыя № 13.

8) Беларускае Сялянска-Работніцкае Аб'яднаньне на чале з былымі паслямі Тарашкевічам і Мятлою.

9) Сьпісак барацьбы за інтарэсы работнікаў і сялян.

10) Сьпісак Паўлюкевіча.

11) Беларускія сяляне і работнікі — Чатырка, Астроўскі і Шнаркевіч.

12) Эндэкі.

13) Агульна-жыдоўскі блёк.

14) Вызваленьне.

15) Партыя Хлопска.

16) Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне.

17) Беларускі Гаспадарчы Саюз Сялян і Работнікаў — Шушко і Міткевіч.

Тое самае бачым у выбарным вокрузе Сьвянцяны і Ліда; таксама і там пададзена па 17 сьпіскаў розных групаў і партыяў.

Найбольш галасоў зьбярэ сьпісак № 1 Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з урадам, бо гэты сьпісак не зьяўляецца партыйным і лучыць усе групы і партыі, якія хочуць паправы жыцьця і вызваленьня ад партыйнасьці, якая разьядала дагэтуль усё жыцьцё ў Польшчы.

---

ўгодкі сьмерці яго. Вільня 1920 г.“ і — другая: Максім Гарэцкі: „Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня 1920 г.“

У гісторыі літаратуры Гарэцкага на старонцы 132 ўнізе старонкі ў гэнай справе мы знаходзім гэткіх некалькі словаў: „Пісала ў „Нашай Долі“ рэвалюцыянэрка Цётка, пісалі яшчэ: Дзядзька Пранук (Ф. Умястоўскі), В. Тройца (В. Іваноўскі) і з маладзейшых — Я. Колас і А. Навіна“.

На старонцы 134 пад загалоўкам „Ян Луцкевіч“ знаходзім другую яшчэ зацемку гэткага зьместу: „Ян Луцкевіч, хоць сам блізка што і ня пісаў, зрабіў вялікую работу ў гісторыі нашаніўскае літаратуры, быўшы ініцыятарам „Нашае Долі“ і „Нашае Нівы“, дабываўшы кошты на друкаваньне, гуртуючы ля сябе людзей слова і жывучы з імі адным жыцьцём“.

Больш у гэнай працы пана М. Гарэцкага я ня мог знайсьці нічога, што так ці іначай магло-б асьвятліць справу, хто быў фактычным рэдактарам „Нашае Долі“.

У другой, названай панам Р. Земкевічам, кніжцы: „Памяці Івана Луцкевіча“, у якой быццам аўтор яе пярэчыць таму, што я быў фактычным рэдактарам „Нашай Долі“, пасьля самага сумленнага перагляду яе, я мог знайсьці толькі тры месцы, якія закранаюць мімаходам гэнае пытаньне.

Першае на старонцы 11 у самым нізе яе і на пачатку 12-ай, калі аўтор гавора аб абставінах, у якіх Івану Луцкевічу давозілася распачаць і весьці працу ў Вільні. Вось дасլоўны перадрук гэтых радкоў: „Аднак, былі і памысныя акалічнасьці: ў Вільні ўжо згуртавалася жменя беларускіх дзеячоў з „Цёткай“ (Алёізай Пашкевічанкай) па чале, *з сям'ёй Умястоўскіх* і іншых. Праўда, яны былі ў той час засуджаны на бясчыннасьць: усе былі пад судом, або арыштам, — але, дзякуючы ім, арганізацыйныя ніці ўжо зьвязвалі і некаторыя групы работнікаў і школьную моладзь“.

Далей, на старонцы 12-ай: „Вялікае заваяваньне для беларусаў становіць скасаваньне ў 1905 годзе, трываўшае ад 1865 году, забароны беларускага друку.

Іван Луцкевіч першы выкарыстаў гэта: ён згуртаваў некалькі беларускіх пісьменьнікаў (Цётка, *Умястоўскі*, Антон Луцкевіч і іншыя), і арганізаваў першую беларускую легальную часопісь— тыднёвік „Наша Доля“, каторы выйшаў 1 верасьня 1906 году...“

Далей, на старонцы 40-ой у той самай кніжцы знаходзім у „ўспамінах пра Івана Луцкевіча“ Адвардага Будзькі гэткія весткі: „У канцы 1905 году,—піша А. Будзька, — першы раз пачуць прышлося мне пра Беларускую Соц. Грамаду ў Вільні. Дачуўся я гэта ад Браніславы Родзік (ця-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Закіды проціў хутароў і наколькі яны маюць падставу.

Не зважаючы на яўную выгаду хутароў перад цераспалосіцай, з сумам трэба прызнацца, што і па сягоньня яшчэ ў нас ёсьць шмат прыхільнікаў вёскі. Пераважную большасьць іх складаець самы нядбалы і самы консэрватыўны элемэнт апошняй, які па несьвядомасьці сваёй гатовы заўсёды стаяць за дзядоўскія і нават прадзедаўскія звычаі, ня лічачыся з тым, добрыя яны, ці не, і наколькі адпавядаюць сучаснаму жыцьцю.

Пералічым тыя закіды, якія яны робяць процiў хутароў.

Яны кажуць, што на хутары толькі добра таму, ў каго многа зямлі. Даказваюць, што на хутары няма куды дзявацца са скацінай улетку і што наагул для малазямельнага шмат выгадней са скацінай у вёсцы.

Як перашкоду для пераходу на хутары, яны выстаўляюць неаднолькавую якасьць грунту. Кажуць, што пры пераходзе на хутары адзін атрымаець зямлю лепшую — будзець багацець, а другі пушчэйшую—будзець бяднець.

Кажуць, што на хутары могуць лягчэй абакрасьці і спаліць.

Таксама можна пачуць, што на хутары людзі дзічэюць і адстаюць ад грамадзкага жыцьця.

Апрача пералічаных, можна пачуць і яшчэ шмат іншых закідаў, як напрыклад, што град можа скарэй адбіць усе пасевы на хутары, або што на хутары ня будзе куды бабе схадзіць на сяло.

Пастараемся цяпер разабраць паасобку кожны з гэтых закідаў і паглядзець, ці маець ён праўды настолькі важкія падставы, каб, дзякуючы ім, неяк было навет і думаць аб пераходзе на хутары?

Пачнём з першага, з таго, што на хутары добра толькі тым, у каго многа зямлі. Нам здаецца, што ў каго многа зямлі, таму ня толькі добра на хутары, але ляпей, чым малазямельнаму і ў вёсцы. Бяручы пад увагу тое, што зямля для селяніна зьяўляецца адзіным сродкам да жыцьця, само сабой паўстае пытаньне: хто болей зацікаўлены ў павялічэньні абшару грунтоў—малазямельны? Думаем, што пытаньне гэтае само па сабе так яснае, што на яго нявартa навет адказваць. А як-жа можаць павялічыць свой абшар той небарака, ў каго няма ні капейкі за душой, каб прыкупіць сабе дзесяціну-другую зямелькі? Толькі пераходам на хутары!

Згодна цяперашняму закону, велічыня кожнага хутара не павінна быць меншай, як пяць гэктараў, а дзеля гэтага, тыя гаспадары, якія маюць зямлі менш, атрымліваюць яе да поўнай нормы з прырэзкаў зямлі дворнай, казённай, якая ёсьць паблізу. Але на гэта могуць сказаць: „Ведаем мы польскія абяцанкі: на паперы ўсё даюць, а на дзеле нічога“. Няхай будзе нават і так.

Калі мы вялі гутарку аб тым *„Чым дрэнна ў вёсцы“* *) мы прыблізна падлічылі, што частагуста ў таго малазямельнага гаспадара адна дзесяціна зямлі прападаець толькі пад межамі, ня лічачы розных парасьнікаў, кустоў, курганоў, балот і іншых улюбёнцаў кожнай вёскі. З пера-

*) Глядзі „Беларускі Дзень“ № 5 (45).

---

пер Умястоўскай), каторая ў Рызе тады хавалась якісь час, з Новай-Вялейкі, прыехаўшы пасьля октябрскай рэвалюцыі. Захацелась мне тады зараз пазнацца з грамадзянамі. І незадоўга (на запусты ў 1906 годзе) прыехаў я з Рыгі ў Вільню *з пісьмом ад Родзічышкі да Пранука Умястоўскага, каторы належаў да „Грамады“ і вёў рэвалюцыйную работу сярод салдатаў.* Ад Умястоўскага дастаўся я на конспірацыйную кватэру „Грамады“, на Хівінскую вуліцу № 24 да „Цёткі“, каторая жыла ў афіцэрскай кватэры свайго брата В. Пашкевіча“.

Вось і ўсё, што пры самым шчыльным пераглядзе ўдалося мне знайсьці аб закранутай Р. Земкевічам справе. Толькі чалавек псыхічна хворы мог з іх дашукацца запярэчаньня таму, што фактычным рэдактарам „Нашае Долі“ быў я.

Яшчэ больш недарэчным у сусьвязі з тым, што піша А. Будзька, зьяўляецца справа пана Земкевіча пераканаць чытачоў „Думкі Працы“, што я не належаў да Бел. Соц. Грамады, а належаў да партыі П. П. С. Што датычыць да матэр‘ялаў, выданых у Б. С. С. Р., аб якіх гавора Р. Земкевіч, і якія паводлуг яго даказваюць маё „самазванства“, то нажаль, ня маю іх пад рукою і дзеля гэтага гаварыць аб іх нічога не магу. Толькі здаецца мне, што пазнаёміўшыя з імі, столькі-ж можна знайсьці ў іх „доказаў“ на пацьвярджэньне словаў Р. Зекеевіча, колькі мы знайшлі іх у „Гісторыі літэратуры“ Гарэцкага і ў кніжцы аб Іване Луцкевічу. Цяпер некалькі словаў аб пададзеным Р. Земкевічам „факце“ вывазу мною касы „Нашае Долі“.

Агідна робіцца, чытаючы ўсю гэную плюгавую інсынуацыю пана Р. Земкевіча, інсынуацыю, высcаную з пальца. Насам перш сьмешна нават гаварыць аб *касе* „Нашае Долі“, амаль кожны нумар каторай канфіскавалі. Але і тыя маленькія грошы, на якія заўсёды чакаў друкар і пастаўшчык паперы, і гэтыя грошы былі ў кішані Туркеркеса альбо яго даверанага чалавека, экспэдытара і адміністратара „Нашае Долі“ Евстафія Сымановіча. Абвестка ў № 2 „Нашае Долі“: „Усялякія грошы, прысланыя ў рэдакцыю „Нашае Долі“ просім прысылаць канешна на імя Ефтафія Сымановіча“ — абвестка, якая паўтаралася ў 3 і 4 нумарох „Н. Д.“, была надрукована з добрай волі і згоды Яна Тукеркеса, каторы ў асобе Евстафія Сымановіча меў свайго скарбніка. Гаварыць, што пры гэтакіх варунках „каса“ „Нашае Долі“ была ў маіх руках, і на падставе гэтага рабіць вывады, што, выехаўшы з Вільні, я захапіў усю гатоўку касы, можа толькі чалавек, для каторага лёгка ня існуе, чалавек, для каторага грошы — гэта ўсё, чалавек так нізка ўпаўшы моральна, што нават не ўяўляе сабе, што, маючы чужыя грошы ў кішані, можна іх ня ўкрасьці.

ходам на хутары гэтыя межы і няўжыткі, якія прападаюць марна і павялічылі-б сабою якраз на 1/4, калі ня больш, плошчу грунтоў малазямельнага.

Жывучы ў вёсцы, малазямельнік, каб не памёрці з голаду, зазвычай мае́ць яшчэ запашку, або той ці іншы адработак ці заработак на старане. Ці перашкаджала-б яму рабіць гэта, жывучы на хутары? Ня толькі не, але навет у гэткім разе, было-б шмат лепей. Дзякуючы таму, што ўся свая гаспадарка была-б тут каля самай хаты, малазямельнік хутчэй і лягчэй управіўся-б з сваею работаю і меў-бы болей часу адхінуцца на старану.

Якраз наадварот: чым меней зямлі мае́ць гаспадар у вёсцы, тым стасункова ён кладзе́ць болей працы. Калі багацейшы, напрыкл., езьдзіць за 2 — 3 вярсты за возам сена ці за капой снапоў, то малазямельніку прыходзіцца туды сама ганяць каня і ламаць колы з-за якога-небудзь пласта сена і некалькіх снапоў. Ня дзіва, што малазямельнікі часта кідаюць далёкія канцовыя нівы пад пожню, мотывуючы тым, што няма дзеля чаго марнаваць часу.

Апрача таго, што ад пераходу на хутары павялічваецца ў малазямельніка плошча ральлі, павялічваецца і сама вартасьць грунту—цана на зямлю, так што калі і прадаць яе, то можна атрымаць шмат больш, чым атрымаў-бы за яе пры цераспалосіцы. Ня будзем навет казаць аб тым, што ўсе расходы і праца ад пераноскі будынкаў з вёскі на хутар праз год-другі цалком адплаціліся-б гаспадару толькі эканоміяй часу ад гаспадараваньня на хутары.

Цяпер паглядзімо, як выглядае справа з пасьбой скаціны на хутары? На першы пагляд нібы кажуць і праўду заступнікі вёскі. На сумеснай пасьбе ў вёсцы шмат болей прастору для скаціны. Навет малазямельны, прыкупіўшы корму на старане для зімы, можаць трымаць летам у вёсцы 2 каровы і каня. А дзе падзецца з гэтай скацінай на хутары?

Але гэтак толькі здаецца на першы пагляд, бо ўзапраўды са скацінай і для скаціны шмат выгадней на хутары. Дзе пасуць хутарщчыкі сваю скаціну і як?

Па выхадзе на хутары, пакуль яшчэ гаспадары не пасьпелі перамяніць севазвароту і завесьці пасеў травы на корм (канюшыны, вікі) яны пасуць на той часьці хутару, якi знаходзіцца пад парам, а пасьля па атаве і па іржышчы. Апрача таго, пад пасьбішча пакідаюць які-небудзь кусок зямлі, які не пасьпелі прывясьці да парадку з ранейшых няўжыткаў.

Праўда, абшар для пасьбы скаціны цяпер можа быць і меншы, але трэба помніць, што скаціна ў хутарщчыка пасецца не на волі, як у вёсцы, а на прывязі. Кожны ведае, што варта толькі прайсьці вясковаму стаду па самай лепшай траве, як уся трава ня столькі бывае зьедзена, колькі зьбіта нагамі, стоптана і прападае дарма бяз ужытку. На хутары гаспадар выпасвае́ць кожны кусочак і перавязвае скаціну на другі, даючы магчымасьць траве на першым кавалку адрасьці, каб перавязаць на яго тады караўку ізноў. Пры гэтым трава ня зьбіваецца капытамі, не прападае́ць дарма, а йдзець на карысьць.

Дзеля гэтага і пры меншым абшары пасьбішча скаціна на хутары бывае сыцейшая і дае́ць болей карысьці.

Трэба ведаць, што ад далёкіх перагонаў кароў на пашу і з пашы дамоў (а часта за дзень карова робіць вёрст 50) палавіна спажытага жывёлай корму траціцца толькі на пераходы; а апрача таго карова варочаецца дамоў, прыстаўшы, замарыўшыся ад пераходкі і, прышоўшы дамоў, адразу стараецца легчы. А гэта страшна дрэнна адбіваецца на малочнасьці каровы. Малако ня толькі не вырабляецца ў вымі такой прыстаўшай каровы, але яна ня хоча аддаваць гаспадыні тую

---

Зьместу пісьма Тукеркеса ў газэце „Свободное Слово“, ў якім Тукеркес лаяў усіх сяброў рэдакцыі „Н. Долі“, а найбольш мяне, паводлуг дагадак Р. Земкевіча за тое, што быццам я вывез касу газэты, я не прыпамінаю. Але калі сапраўды Тукеркес і лаяў мяне больш, чым іншых сяброў Рэдакцыі, то гэта для мяне зьяўляецца зусім зразумелым. Я намовіў яго выдаваць газэту, мне ён даверыў рэдагаваць яе, і ў рэзультаце ўсяго гэтага, дзякі бязупынным канфіскатам, уціснуў у газэту некалькі соцен рублёў і быў пацягнуты да суду, які засудзіў яго на год крэпасьці. Як бачыце, повадаў да злосьці на мяне большай, чым да чужых яму і зусім да „Н. Долі“ незнаёмых братоў Луцкевічаў і Цёткі, ў Тукеркеса было шмат.

Не магу яшчэ не зьвярнуць увагі на тое, што адін з першых адраджэнцаў Беларускага руху, Вацлаў Іваноўскі, толькі за тое, што я выставіў яго, як жывога сьведку ілжы Р. Земкевіча — адразу адтрымаў ад гэтага знамянітага інжынера тытул здрадніка Бел. Народу.

Пакідаючы на сумленьні яго ацэнку значэньня В. Іваноўскага ў беларускім адраджэнскім руху, скажу толькі тым, хто ня ведае што В. Іваноўскі выцягнуў з вёскі Янку Купалу ў Пецербург і там апекаваўся ім, даючы яму магчымасьць атрымаць адукацыю. Ці бяз гэтай адукацыі Я. Купала быўбы тым, чым ёсьць? Думаю, што не. Прыпомню таксама працу В. Іваноўскага, як арганізатара, выдавецтва „Загляне сонца і ў нашаваконца“. Цяпер ён, паводлуг заявы Р. Земкевіча, здраднік беларускага народу!

З сумам трэба прызнацца, што слова „здраднік“ здабыло сабе правы грамадзянства ў беларускім жыцьці. Яго кідаюць направа і налева на старонках беларускае прэсы розныя прайдзісьветы, хаваючы сваё праўдзівае імя пад хітра выдуманымі псэўдонімамі. Кідаюць яго вельмі часта на людзей, маючых вялікія заслугі прад беларускім народам і робяць гэта найчасьцей тыя, у вуснах каторых слова „здраднік“ зычыць горкай іроніяй, тыя хто найменш мае моральнага права рабіць каму-нібудзь закіды здрады Беларускага Народу.

Формай свайго выступленьня пан Саўка Барывой выкрасьліў сябе з ліку тых людзей, з якімі можна вясьці палеміку. І я на гэтым спыняю яе. На далейшыя яго выпады будзе з майго боку поўнае маўчаньне. А аб „Нашай Долі“ калі нібудзь яшчэ раскажу нашым чытачом.

*Ф. Умястоўскі.*

каплю, што сабралася. На хутары скаціна пасецца на адным месцы, а дзеля гэтага ёй ня трэба траціць корму на вандроўкі па полі ці па лесе. А дзеля гэтага яна патрабуець корму меней і спажыты ёю корм ідзе на малако. Дзеля гэтага каровы на хутары бываюць больш малочныя. На хутары скаціна пасецца на вачох самога гаспадара, а дзеля гэтага бывае заўсёды дагледжана і ад ваўка і ад прабоджваньня чужымі.

Дзеля таго, што на хутары шмат меней працы каля гаспадаркі, то той гаспадар, які трымаў у вёсцы два кані, можа цяпер абходзіцца адным, прыкупіўшы на яго месца карову. Праўда, дробнай скаціны: сьвіней, авец, курэй, гусей на хутарох водзяць меней, чымся ў вёсцы. Справа тут ня толькі ў тым, што з гэтай драбязой няма дзе вазіцца на хутары, (хоць можа і гэта маець падставу), а ў тым, што раз ёсьць добры корм для коняй і кароў, то лепей прыбавіць лішнюю карову ці цялёнка, чымся трымаць оўцы.

Што датычыць неаднолькавай якасьці грунту ў вёсцы, то гэты закід цалком палягае на незнаёмстве сялян з тым, як робіцца нарэзка хутароў. Нярэдка можна пачуць ад сялян такую гутарку: „Цяпер у мяне ёсьць паласіна і добрай зямлі і благой, а што я буду рабіць тады, калі мне выражуць хутар там вун на „дармаедзіцы", дзе нічога не расьцець?"

Трэба ведаць, што раней, як нарэзваць хутары, робіцца так званае ўраўненьне зямлі. Ураўняньне складаецца з таго, што гаспадары разам з каморнікам робяць ацэнку ўсяе сваяе зямлі, ці, йначай кажучы, сартуюць, разьбіваюць яе на сарты. Найлепшую зямлю залічаюць да сорту I; трохі горшую да II, яшчэ горшую да III і гэтак далей. Чым лепей зямля будзе пасартована (чым на болей сартоў будзе падзелена), тым лепей. Добра было б, каб разьбіць усю зямлю на сартоў 5—6. Пасьля таго, як зямля будзе пасартована, робіцца ацэнка кожнага сорту. Напрыклад, возьмем першы сорт дзесяціна 150 рублёў. II — 120 рублёў, III—100 руб., IV—80 рублёў, V—50 руб. Каморнік на пляне вылічаець колькі дзесяцін якога сорту зямлі ёсьць і колькі варта ўся зямля, і на колькі рублёў выпадаець, зямлі кожнаму гаспадару. Напрыклад, уся зямля ацэнена ў 6000 рублёў. Янку або Міхалку трэба даць зямлі на 1000 рублёў. Ён маець $^1/_6$ часьць усей зямлі. Колькі дзесяцін ён павінен атрымаць? Вось тут усё залежыць ад таго, якога сорту зямля яму выпадзець. Калі ён атрымаець зямлю I сорту, то будзе мець $6^1/_2$ дзесяцін, а калі II, то $8^3/_4$ дзесяціны, III сорту 10 дзесяцін, а IV сорту $12^1/_2$ дзесяцін. Адным словам, чым будзе горшая зямля, тым гаспадар стасункова атрымаець яе болей і наадварот: чым лепшая зямля, тым будзе хутар меншы. Гэта мы падаём толькі для прыкладу. Пры нарэзцы хутароў, каморнік павінен паступаць так, каб па магчымасьці ў кожны хутар пападала зямля кожнага сорту. Аб гэтым павінен рупіцца кожны гаспадар, бо пры нарэзцы хутароў яшчэ невядома, які хутар каму дастанецца.

Трэба дадаць, што нарэзка хутароў каморнікам робіцца пад даглядам ураду, які зацікаўлены ў тым, каб падзел зямлі на хутары быў зроблены правільна бяз крыўды для кожнага гаспадара, каб усе хутары па магчымасьці мелі доступ і да лесу і да вады і мелі больш-менш роўную па якасьці зямлю. Калі-б хто быў пакрыўджаны несправядлівым падзелам, той маець права зварочвацца да ўлады з жалабай.

Што на хутарох могуць лягчэй абакрасьць і спаліць, то на наш пагляд, гэты закід ня мае усіх маець пад сабой падставу. Якраз наадварот: на хутары шмат бесьпячней ад пажару. На хутары гаспадар сьцеражэцца толькі за сябе, тады як у вёсцы, дзякуючы неасьцярожнасьці ці нядбальству аднаго суседа, ахвярай агню робяцца ўсе.

Што датычыцца крадзежы, то з пераходам на хутары, як нам здаецца, яна павінна зусім зьнікнуць.

Ведама ўсім, што прычынай крадзежы найчасьцей бывае беднасьць, якая змушае чалавека на самыя дурныя ўчынкі. З пераходам на хутары, дабрабыт кожнага павялічваецца і, апрача таго, ў кожнага хутаршчыка знаходзіцца больш павагі, як да сваіе ўласнасьці, так і да чужой. Нярэдка прычынай крадзежы або пажару ў вёсцы бывае помста або зайздрасьць суседа, якая выклікана сумесным жыцьцём. На хутары кожны гаспадар жывець сам па сабе, яму няма за што апрыкрацца і сварыцца з другімі, а дзеля гэтага ў яго няма ворагаў, якія-б палілі яго або абкрадалі.

Баяцца таго, што людзі на хутарох дзічэюць, адвыкаюць ад грамадзкага жыцьця, тады калі да гэтага часу гэтае жыцьцё нашае вёскі выяўлялася толькі ў сварках, пабоях, судох—няма чаго. Наадварот, можам сказаць, што на хутар больш пашырана нацыянальная сьвядомасьць і што хутаршчыкі зьяўляюцца лепшымі барацьбітамі за нашае нацыянальнае і социяльнае вызваленьне, чымся вёска.

З усяго вышэйсказанага мы бачым, што закіды процiў хутароў маюць зусім мала пад сабой падставы, калі не сказаць, што ўсе яны зусім беспадставўныя. Спытайцеся толькі ў гаспадара, які жывець на хутары ўжо гадоў 5 — 6: дзе яму лепей жывецца—тут ці ў вёсцы? Заўсёды пачуеце ад яго адказ, што ён гатоў хутчэй памёрці, чымся вярнуцца назад. А гэта самы найлепшы доказ процiў нявыгаднасьці хутароў.

Бязумоўна, болей важныя прычыны да пераходу вёскі на хутары — гэта надта слабы матар'яльны стан яе, беднасьць. Як-ніяк, а для пераходу на хутары патрэбна ня толькі коштаў на перанос будынкаў, але трэба плаціць яшчэ каморніку за нарэзку хутароў. Дзеля гэтага мы павінны дабівацца, каб кошты па разьбіўцы вёскі на хутары ўрад браў на сябе, каб на загаспадарваньне на новых сялібах урад даваў хутаршчыкам доўгатэрміновыя пазычкі за нізкі процант і каб усім малазямельным была прырэзка зямлі хоць-бы да нормы, паказанай ў уставе аб комасацыі.

*Янка Пачопка.*

# Як уберагчыся ад пажару.

(Гл. № 1 (44) „Белар. Дня").

## Тушэньне пажараў.

Бывае часта, што пажар здараецца ўночы, тады, калі людзі сама смачна і моцна сьпяць; а вынікшы пажар надта хутка пашыраецца і ахватваець хаты са сьпячымі людзьмі. Вот-жа ляжыць тут найбольшы доўг людзей, якія ўжо прабудзіліся і прыбеглі на пажар, а гэтак сама і пажарнае варты, каб усе сілы ўжыць дзеля та-

го, каб выратаваць людзей, з гаручае ўжо будыніны.

Пасьля трэба пастарацца, каб вывясьці хутчэй з ахопленае агнём будыніны ўсе хутка гаручыя матар'ялы, як: дзёгаць, газу, тарпатыну, порах, масла, сала, каноплі і г. д., па гэтым трэба прыступіць да тушэньня пажару. Пры тушэньні пажару вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, ці агонь вельмі моцны і ці можна яго затушыць тою вадою, якая ёсьць у нас у запасе. Трэба гэтак сама зьвярнуць увагу на кірунак ветру і калі яшчэ пажар ня ўсьпеў надта пашырыцца, то трэба паставіць кішку помпы проці ветру, значыцца проці наступу полымя, і пусьціць у рух помпу. У тым выпадку, калі агонь ужо ахапіў усю будыніну, трэба пастарацца абліць вадою суседнія будыніны, якім пагражаець агонь, а па гэтым пачаць тушыць тую, што гарыць, будыніну; трэба толькі старацца не выліваць усяго запасу вады, а на кожны выпадак трэба пакінуць трохі, да прыбыцьця новага запасу.

Прыступаючы да тушэньня пажару, ніколі ня трэба настаўляць кішку помпы за ветрам, дзеля таго, што ад гэтага вялікае карысьці ня будзе, а абавязкова проці ветру і наступаючы па ветру агонь трэба як-бы адбіваць назад; але калі ў нас ёсьць некалькі помпаў (што папраўдзе сказаць у нашых вёсках ёсьць зусім рэдкім зьявішчам), то тады адну кішку можна паставіць па ветру.

Часта здараецца, што ў нашых вёсках на невялікі пажар выльлюць чуць што ня цэлае возера вады, а пажар ад гэтага ня толькі, што ня паменшваецца, але яшчэ павялічваецца; гэта вынікаець з таго, што ўвесь час лілі ваду ня ў тое месца, куды трэба было, а ў другое, і гэтым раздзьмухалі агонь. Наагул, трэба прыняць пад увагу, што вада льлецца ня туды, дзе ёсьць шмат чорнага дыму, а вада льлецца ў тое месца, дзе моцна гарыць, а дыму як быццам зусім няма, дзеля таго, што тое месца ёсьць самае галоўнае паддувала ўсяго пажару: а з вады, падаючае на гэтае месца, творыцца пара, якая разыходзячыся па ўсім пажары, тушыць агонь.

Калі ўнутры будыніны гараць сьцены, столь і падлога, то ваду трэба ліць на падлогу; а пара, якая з гэтае вады паўстанець, падымаючыся ўверх, патушыць, як сьцены, так і столь.

Газу, масла, сала, дзёгаць і наагул усе клустыя матар'ялы трэба тушыць пяском, альбо зямлёю, а найляпей атрубямі.

Калі ў коміне загарыцца сажа, то ня трэба яе тушыць вадою, альбо ня трэба коміна ўверсе затыкаць ганучамі, ці чым-небудзь іншым, дзеля таго, што ад гэтага часта лопаюць каміны, яшчэ хутчэй выклікаючы пажары. Каб патушыць у коміне сажу, дзеля гэтага трэба ўкінуць у печ на гарачыя вугальля, альбо проста запаліць на прыпечку пад вылетам, жменю патоўчанай серкі, якая згарэўшы вытвараець многа дыму, а гэты дым з серкі патушыць сабою сажу, бо ў дыме гэтым нішто ня можаць гарэць. (Серка ў кожнага руплівага гаспадара павінна быць дзеля гэтае мэты ў запасе).

Калі загарыцца саламяная страха, а на той час вады пад рукою зусім няма, то трэба ўзяць калы і са ўсяе сілы забіваць агонь; пакуль гэтае біцьцё будзе прадаўжацца, салома не загарыцца, а тым-часам хто-небудзь хай бяжыць па ваду і калі яе прынясець, тады трэба тушыць ужо ёю.

Блізкую ад пажару будыніну, якая маець саламяную страху, разьбіраць ніколі ня трэба, а абсыпаўшы страху зямлёю, пяском ці глінаю, абліваць далей вадою; але калі суседняя будыніна маець дзеравяную страху і на збаўленьне няма надзеі, то трэба чым хутчэй яе разабраць.

Дзеля таго, каб з большым скуткам бараніцца і ратавацца ад пажару, лічу сваім абавязкам зацеміць, што кожны гаспадар павінен мець на выпадак пажару, ня толькі серку (на выпадак, калі загарыцца ў коміне), але яшчэ да гэтага павінен старацца мець фунтаў пяць галуну і са два фунты паташу. (Усё гэта каштуець толькі некалькі залатовак). Падчас пажару галун і паташ трэба разьмяшаць у шасьцёх вёдрах вады і абліць страху тае будыніны, якой пагражаець агонь. Як толькі страха пачнець награвацца, то ад цеплаты, з гэтае вылітае на страху мешаніны вытвараецца гэтак званае фуксавае шкло, якое праз доўгі час працівіцца агню і не даець страсе загарэцца.

Пры пачатку пажару трэба разабраць і аднясьці якнайдалей ўсе платы, маленькія хлявушкі і іншыя скорыя да паленьня рэчы, якія знаходзяцца паміж будынкаў.

Калі мы хочам разабраць запаленую будыніну, то трэба яе пачынаць заўсёды разьбіраць з верхніх бярвёнаў, і ня кідаць гэтых бярвёнаў у сярэдзіну будыніны, а абавязкова на двор, заліваючы пры гэтым кожнае бервяно вадою, альбо абсыпаючы яго зямлёю.

У тых суседніх будынках, якім пагражаець агонь, але якіх па якой-небудзь прычыне ня можна разабраць, ня трэба ніколі даставаць ці выбіваць вакон ці дзьвярэй з боку пажару, а наадварот трэба яшчэ іх завесіць мокрымі коўдрамі ці вэйлаком; дзеля таго, што калі мы павыймаем вокны і дзьверы, то дзіры ў будыніне пачынаюць ствараць працяг паветра, а дзеля таго могуць сьцягнуць і агонь.

Па аслабленьні агню ўнутры хаты, неабходна ўвайсьці ў сярэдзіну яе, абглядзець, ці няма там тлеючых частак сьцяны, ці падлогі і калі яны знойдуцца, затушыць іх вадою.

Для большага пасьпеху ў тушэньні пажару, трэба як можна бліжэй падходзіць да агню з кішкай помпы.

Калі гарыць салома, сена, каноплі ці лён, то трэба раскідаць іх і абліваць дажджавою струёю з кішкі помпы. *Гаспадар.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

**Вулей славянскі доктара Цясельскага.**

Маючы за сваё заданьне, пры пачатку апісваньня вульлёў, абзнаёміць па магчымасьці нашых пчаляроў з усімі сыстэмамі вульлёў, якія толькі могуць знайсьціся на Беларусі, я не магу памінуць тут і вульля славянскага, сядзібаю якога хаця практычна і ёсьць Галічына (бо ён там быў выдуманы і там спачатку заняў першае месца), але і ў нас дзе ня дзе здараецца ён, паза фактычным панаваньнем вульлёў Дадана і Лявіцкага.

Вот-жа фактычна для тых пчаляроў, у якіх

гэты вулей захаваўся, я і пішу аб ім, бо-ж трэба высьвятліць будову гэтага вульля, яго значэньне для пчолак і яго няпрыдатнасьці для пчалярства, адным словам, яго добрыя і благія прыкметы.

Па-першае, значэньне для пчолак гэты вулей мaeць такое, што трохі толькі адказваець іх натуральным патрэбам, але-ж і дуплё даўней гэтак сама адказвала зусім натуральным патрэбам пчолак, і калоды гэтак сама, ў якія пчолкі і мёд насілі, і вяліся, і зімавалі, і давалі ў рэзультаце навет з паўтара фунта мёду пчаляру; усё гэта выглядаець і добра і хораша, але амаль што зусім бескарысна. А мы-ж хочам ісьці за поступам у пчалярстве, хочам узорна яго вясьці і хочам мець з яго якнайбольшую карысьць. А поступ гэты сёньня выказаў, што для рацыянальнага вядзеньня пасекі мусім ужываць толькі вульлі настаўковыя, г. зн. у нас на Беларусі вульлі Дадана-Блатта і палепшаныя Ст. Бжоскай вульлі Лявіцкага.

Паглядзімо, як збудованы славянскі вулей, каб потым сказаць, што ён ужо далёка адстаў ад навейшых вульлёў, што ён ужо адстаў ад поступу. Шак і вулей Лявіцкага быў гэтак сама апынуўся з-заду, але потым дагнаў, толькі дзеля таго, што мусіў быць нанова зрэконструованы, г. зн. палепшаны. Можа гэтае самае хто-кочэчы зробіць з вульлём славянскім, г. зн. увядзе настаўкі, ад'ёмнае дно, адчыняньне зьверху і г. д.; ужо наўперад можам пажадаць яму пасьпеху і славы ў гэтым добрым пачынаньні, але сёньня мы, аднак-жа, мусім апісаць гэты вулей так, як ён прастаўляецца ў сваёй першай конструкцыі доктара Цясельскага.

Перш за ўсё славянскі вулей — гэта стаяк, (рамкі ў ім вузкія і даўгія). Шырыня яго маець унутры 240 мілім., вышыня 640 мілім., глыбіня 410 мілім., (лічачы ад дзьвярэй да задняе сьценкі). Рамкі маюць у шырыню 227 і ў вышыню 480 мілімэтраў.

Вулей гэты робіцца альбо з дошчак з падвойнымі сьценкамі, альбо б'ецца з саломы з адзіночнымі але досьць тоўстымі сьценкамі. Ляток мае ў дыямэтры 45 мілімэтраў. Адступ гэтага вочка ад верху вульля маець 250 мілімэтраў, а ад задняе сьценкі 225 мілімэтраў. Адчыняецца ён ня зьверху, як у вульлі Дадана і Лявіцкага, а з боку г. знача з пярэдняе стараны, якая знаходзіцца па левым баку вочка, калі мы станем да яго тварам.

Рамкі зьбіваюцца з ліштваў, якія могуць мець 6 альбо 7 мілімэтраў таўшчыні і 25 мілімэтраў шырыні. Разам з адступовымі цьвічкамі, рамкі гэтыя маюць 35 мілімэтраў таўшчыні, гэта значыць, што на адступовыя цьвічкі прыпадаець 10 мілімэтраў разам, паасобна 5 мілімэтр. на кожны. Рамкі ў гэтым вульлі стаяць альбо на адумысных парожках, якія маюць у шырыню 20 мілім., і прыбіты яны да баковых сьценак у адлежнасьці 450 мілімэтраў ад верху, альбо зноўжа вешаюцца на ліштвах, якія прыбіваюцца да сьценак у адлежнасьці 20 мілімэтраў ад верху вульля, альбо зноў-жа ўсоўваюцца ў адумысныя, дзеля гэтай мэты зробленыя, пазы; толькі тады трэба ведаць, што верхнія ліштвы рамак павінны выступаць па-за іх бакі.

Рамкі-ж, якія ставяцца на адумысных парогах, павінны быць зусім гладкія, бяз ніякіх выступаў. Адступ рамак ад сьценак вульля рэгулююць трохгранныя выступаючыя на 7 мілімэтраў ліштвы, якія прыбіваюцца да сьценак вульля ў адлежнасьці ад верху адна на 130, а другая на 380 мілімэтраў. Вулей месьціць у сабе 10 рамак з адступовымі цьвічкамі, якія рэгулююць адлежнасьці паміж рамак; цьвічкі гэтыя ўбіваюцца на бакавых ліштвах рамак на перамену па два з кожнага боку.

Корпус славянскага вульля зусім асобны, бяз накрыўкі, бо накрыўка будуецца гэтак сама асобна і потым ставіцца на вярху корпусу. Жаралцо, якое знаходзіцца ў верхнім дне корпусу, мае форму квадрату і служыць для падкормліваньня пчолак, для падаваньня матак, для ахалоды пнёў у часе летняе сьпякоты і, ўрэшце, для праходу пчолак у настаўкі, якія мы можам ставіць сваім спосабам на корпусе вульля, пад яго накрыўкаю, (але мы гэта можам рабіць толькі з свайго ўласнага намыслу, бо славянскі вулей наагул не зьяўляецца настаўковым). Можам, як я ўжо казаў, гэтую настаўку выдумаць самі, збіўшы скрынку з дошчак, якая-б мела разьмеры нашага вульля і памясьціўшы туды 10 паўрамак, нармальнае, як рамкі ў вульлі, шырыні. Паўрамкі гэтыя ўстаўляюцца і прымацоўваюцца гэтак сама, як і рамкі ў самым вульлі. Некаторыя практыкі-пчаляры, каб памінуць у славянскім вульлі пэўныя недарэчнасьці і недагоднасьці, з якіх найгалаўнейшаю зьяўляецца яго малы разьмер, як-бы сказаць яго цесната, пачалі стасаваць да гэтага вульля не настаўкі, а прыстаўкі, якія зьбітыя з звычайных дошчак у форме скрынак бяз дноў з разьмерамі гнязда, прыстаўляюцца да дзьверцаў яго, (дзьверцы, разумеецца, ў такім выпадку выймаюцца) і становяць як-бы далейшае прадаўжаньне. Гэтае практыкаваньне прыстаўных скрынак робіцца, разумеецца, тады, калі альбо матка пачала моцна чарвіць, каб павялічыць сям'ю, альбо тады, калі наступіла багатае мёдабраньне, каб павялічыць збор мёду і ўстрымаць на некаторы час раеньне пчолак.

Разглядзеўшы цяпер дакладна славянскі вулей д-ра Цясельскага, можна сьмела выдаць аб ім сваю крытыку, паставіўшы наўперад пытаньне—ці ён надаецца для паступовага пчалярства ці не? Вот-жа, мусім сказаць на гэта, што не, (для прымітыўнага яшчэ як-небудзь можа служыць, але-ж і калоды для прымітыўнага пчалярства гэтак сама надаюцца), а не з тае прычыны, што: па-першае гэта вульлі не настаўковыя, па-другое, што яны адчыняюцца з боку, а мы ведаем, што заўсёды ляпей, каб вулей адчыняўся зьверху, бо-ж тады пчаляр, адчыніўшы вулей зьверху, маець на вачох усё гнядо і можа рабіць з ім, што яму падабаецца; асабліва з выймом і застаўляньнем рамак.

Трэба ведаць, прыкладам, што часам патрэбна пчаляру дастаць рамку з сярэдзіны, альбо з-пад задняе сьценкі, альбо, наадварот, трэба ўставіць рамку. Гэтае апэрацыі ня можна зрабіць тады, калі вулей адчыняецца з боку, г. зн., што хоць і можна зрабіць, але пры гэтым мы вельмі патурбуем пчолак і падражнім іх, а ў дадатку можам і папсаваць шмат чаго ў вульлі. Па-трэцяе, гэты вулей не надаецца і дзеля таго, што ён ня мае ад'ёмнага дна. Прымаючы гэта ўсё пад увагу, можам сказаць, што славянскі вулей павінен быць заменены ў нас (калі ён дзекочы яшчэ захаваўся ў нашых добрых пчаля-

роў, іншымі, болей удасканаленымі і палепшанымі, вульлямі, і наагул было б вельмі пажаданым, каб на ўсёй нашай Беларусі знайшлі месца вульлі якое-небудзь аднае сыстэмы, альбо Дадана, альбо Лявіцкага. На маю думку, лепей было-б увясьці вулей Дадана. Гэта значна памагло-б нашай пчалярскай гаспадарцы, скіроўваючы яе на адну дарогу, па каторай яна магла-б правідлова ісьці і разьвівацца.

На гэтым я ўжо і закончу сваё апісаньне вульлёў розных сыстэмаў (хаця фактычна я апісаў толькі тры сыстэмы гэтых вульлёў—Дадана, Лявіцкага і вулей Славянскі), а сыстэмаў гэтых ёсьць надта шмат, але я, як ужо казаў, узяў толькі тыя вульлі, якія спатыкаюцца ў нас на Беларусі, мінаючы вульлі сыстэмаў Роота, Лянгстрота, Кована, Дзержона і г. д.

Цікава было-б зазначыць, што ў цяперашні час пачалі надта майстраваць вульлі з саломы, якая выдумка ёсьць надта карысная і пажаданаю (з прычынаў таннасьці і гігіенічнасьці), а дзеля гэтага я пастараюся ў наступных артыкулах дакладна апісаць розныя спосабы рабеньня саламяных вульлёў.

*Пчаляр.*

# Корэспондэнцыі.

(*вёска Кусьні*).

Ужо цяпер няма хіба ніводнай беларускай вёскі, аб якой ня пісалася-б у газэтах.

Толькі нічога аб нашай вёсцы ня чуваць, хоць і ёсьць шмат аб чым пісаць. Хто быў у нашай ваколіцы, дык пэўна чуў, што-небудзь аб Кусьнях.

Вёска Кусьні ня можа пахваліцца а ні дабрабытам, а ні культурнай працай сялян, а толькі сваркамі і бойкамі. Каб добра пазнаёміць чытачоў з нашай вёскай, хачу напісаць аб некалькіх фактах.

Сумна мне зрабілася, калі спаткаўшыся з знаёмым маладым хлапцом і спытаўшыся, што чуваць,—ён адказаў, што ён з братам пабілі хлапцоў з суседняй вёскі і то так, што два хлапцы чуць запаўзьлі дамоў, а некаторых прышлося завясьці дамоў.

Памятайце, браты, што п'янства і бойкі вядзе да цемнаты і апошняе галоты.

Памятайце аб тым, што ніхто не парупіцца аб нас, калі мы самі аб сваім доме рупіцца ня будзем.

Толькі ўсьведамленьне нацыянальнае, толькі праца над сабой здолее палепшыць нашу будучыну.

*Антон.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## З жыцьця Беларускага Студэнскага Саюзу.

5 лютага 1928 г. у Студэнскім Саюзе адбыўся спэктакль - вечарына. Ставіліся „Цені“, драма Аляхновіча ў 3 актах.

Артысты аматары згулялі вельмі добра, асабліва ад'значылася гульнёй Э. Залкінд.

Пасьля спэктаклю адбыліся скокі. Скокі трывалі да гадз. 4.

У нядзелю 12.II.28 г. у памешканьні Беларускага Студэнскага Саюзу адбудзецца лекцыя на тэму „Пасьля Ўсебеларускага Зьезду“. Лекцыю прачытае грам. М. Косьцевіч.

### Новая студэнская часопісь.

Вышла „Студэнская Думка“, орган Беларускага Студэнскага Саюзу. Зьмест нумару цікаўны і багаты, асабліва аддзел поэзіі. Цана нумару 1 злоты.

„Студэнская Думка“ мусіць быць горача прывітана старэйшым грамадзянствам. Адначасна студэнты-беларусы чакаюць дапамогі з боку грамадзянства.

### Новая беларуская часопісь.

Як даведваемся, хутка выйдзе новая беларуская часопісь, орган „Галоўнага Выбарнага Камітэту Сялянства і Работніцтва“ пад наз. „Нашая Бацькаўшчына“.

### Вялікі камуністычны працэс у Беластоку.

7.II.1928 г. меў адбыцца ў Беластоку вялікі камуністычны працэс; на лаве абвінавачаных ёсьць больш чым 133 чалавекі.

Працэс гэты аднак мае быць з тэхнічных прычынаў адложаны.

# Юрыдычныя парады.

### Як трэба шукаць асобаў, якія загінулі за граніцай.

Просьбы аб загінуўшых за граніцаю сваяках і знаёмых трэба падаваць у Староства, якое ўжо перасылаець іх далей у польскія консуляты за граніцу. У просьбе трэба апісаць, дзе прабывала асоба, якую шукаеш і падаць апошні яе адрэс.

# Апошнія навіны.

**Літва. Літоўска-нямецкі арбітражны дагавор.** 29 студня ў Бэрліне падпісаны арбітражны дагавор між Літвой і Нямеччынаю. Дагавор падпісалі: з боку Нямеччыны — мін. зам. спраў Штрэзэман, з боку Літвы — сам дыктатар Вальдэмарас, які на некалькі дзён перад гэтым выяжджаў у Бэрлін.

**Індыя. Чыгунковая катастрофа ў Індыі.** У Лёндан падаюць вестку аб страшнай катастрофе, якая здарылася на чыгунцы Маджляй — Рангун у Індыі. На мосьце выкалеіўся цягнік, пры чым паравоз, два багажныя вагоны і тры вагоны III клясы зваліліся з мосту ў ваду. Больш 40 чалавек забіта, ранена каля 30. Катастрофа наступіла ў выніку расшрубаваньня шынаў.

**Швэцыя. Судовая памылка.** 30 гадоў таму назад у Сіобо (Швэцыя) быў асуджаны на дажыцьцёвы вастрог нейкі Томассон за забойства служанкі.

На гэтых днях яго выпусьцілі з вастрогу, бо... аказалася, што ён нявінны. Забойцаю служанкі, як высьнілася, ёсьць Свэнсон, каторага арыштавана. Ахвяра памылкі вагі справядлівасьці ў руках дзяржаўных судзьдзяў, Томассон, каторы нявінна мучыўся 30 гадоў у лёхах вастрогу, цяпер мучыцца... у доме вар'ятаў.

**Нарвэгія. Новы соцыялістычны ўрад.** У Нарвэгіі стварыўся новы ўрад соцыялістага Горнсруда.

**Югаславія. Прыяцельскі дагавор паміж Югаславіяй і Італіяй.** 25 студня італьянскі і югаслявянскі паўнамоцнікі ўрадаў падпісалі ўмову, па якой прыяцельскі дагавор паміж Італіяй і Югаславіяй з 1924 г. прадаўжаецца да 27 ліпня г. году.

**Гішпанія.** 28 студня памёр выдатны гішпанскі пісьменьнік — Бляско Ібанэз.

**С.С.С.Р. Прысуд над ксяндзом Скальскім.** У Маскве засуджаны на 10 гадоў вастрогу ксёндз Скальскі за антысавецкую прапаганду паміж Палякоў, грамадзянаў СССР, і ўчасьце ў контр-рэвалюцыйных арганізацыях.

— У Маскве распачаліся польска-савецкія гандлёвыя перагаворы.

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грам. Рэдактар!

Ветліва прашу зьмясьціць наступнае: У № 11 „Сялянскае Нівы“ за 29 студня 28 году была зьмешчана карэспондэнцыя Амельяновіча, якая пярэчыць тэй праўдзе, якую я пісаў у № 36 „Беларускага Дня“ пад загалоўкам: „Чым займаюцца нашыя сяляне зімовай парой“. Амельяновіч мне закідае, што я беспадстаўна праз Вашу газэту лаяў моладзь і старэйшых карцёжнікаў за п'янства і карты. У сваёй корэспондэнцыі ён піша: „п'янствам і ачком не займаемся, а ў сьвяточныя дні вядзем карысныя для нас гутаркі“. Я магу на гэта адказаць гэтак, што мая корэспондэнцыя проці карысных гутарак зусім не выступала, а толькі проці карт і п'янства, і Амельяновіч, займаючыся карыснымі гутаркамі, не павінем выступаць у абарону вясковай распусты. А што датычыць таго, што гэтыя рэчы істнуюць, дык Амельяновіч запярэчыць ніяк ня можа, бо я, будучы сынам гэтай вёскі, знаю яе заняткі ня горай за Амельяновіча.

Сваю корэспондэнцыю Амельяновіч піша ад імя ўсяе вёскі. Мне здаецца, што тут уся вёска ня пры чым.

Корэспонденцыя мая была скірована проці тых, хто вёў вёску па фальшывым шляху, і калі цяпер гэтыя людзі, дзякуючы майму пісьму, зразумеюць, што яны рабілі дрэнна, то я буду толькі цешыцца.

З пашанай Вясковы.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Грам. Татарыновічу.** Вацлаў Пашкевіч брат „Цёткі“ жыве ў фальварку Катлоўка ў адлежнасьці 12 кілёмэтраў ад Вільні па Лідзкаму гасьцінцу. Пісьмы да яго пісаць трэба па адрэсе: Вільня, Троцкая вул. № 6.

## Друкі Краёвага Народнага Саюзу і Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі.

1) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Зьезду 27 лістапада.

2) **Да народаў Літ.-Бел. Краю.** Адозва Выканаўчага Камітэту К. Н. С. Літ.-Бел. Земляў „Аб'яднаньне“.

3) **Наш адказ „Вызваленьню“**—лістоўка.

4) **Асновы праграмы Б. Р. Н. П.**

5) **Да Беларускага Народу.** Адозва Б. Р. Н. П.

6) **Як выбраць добрага каня** — брашура агр. Пачопкі—32 стр. Выданьне Б. Р. Н. П.

Усе гэтыя друкі можна атрымаць у Вільні ў Сэкратарыяце Краёвага Народнага Саюзу Л.-Б. Земляў **Mostowa d. № 9 m. 3**, і ў Рэдакцыі „Б. Д.“ **Cicha 4, m. 20.**



Адказны Рэдактар і выдавец **Ф. Умястоўскі.** Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3